

### Хотим жить над «Детским миром»

Словно на продуктовом складе живут жители дома №3 по улице Октябрьской. На первом этаже их дома расположен магазин «Гастроном».

Гл. ст. 3



### Вёска мая, Круговічы

Афіцыйная гісторыя вёсак Малыя і Вялікія Круговічы пачынаецца ў XVI стагоддзі. Але факты сведчаць, што продкі сённяшніх кругаўцоў жылі ў гэтых мясцінах ужо у VIII – X стагоддзях.

Гл. ст. 6



грамадска-палітычнае выданне
# Спадарожнік
кошт свабодны

№46 (100) Пятніца, 15 лістапада 2002 г. Выдаецца з 15 снежня 2000 г.

## Навіны

## «Горячая линия» в Ганцевичах

**7 ноября в Ганцевичах побывала съёмочная группа «Горячей линии» Белорусского общенационального телевидения (ОНТ).**

Поводом для посещения нашей полесской глубинки стали публикации в газетах «Спадарожнік», а также «Советская Белоруссия» очерка «Последние из Круглицы». В нём речь шла о четырёх одиноких женщинах, коротающих свой долгий век в заброшенной среди лесов и болот умирающей деревеньке, о их нелёгком вдовьем житье-бытье.

ОНТ заинтересовала эта тема, и по согласованию председателя правления ЗАО «Второй телевизионный канал» Григория Киселя с редакциями газет телевизионщики прибыли на Ганцевщину.

Съёмочная группа побывала в редакции газеты «Спадарожнік», кратко ознакомилась с достопримечательностями Ганцевичей, а потом по разбитой, ухабистой дороге добралась до Круглицы, где целый день провела на съёмках.

В воскресенье, 17 ноября, в 20 час 30 минут в программе «Контуры» ОНТ телезрители нашего района смогут посмотреть отснятый телевизионщиками сюжет о Круглице и её последних жителях.

Константин ЛУГОВОЙ



# «Кіна не будзе!...»



Калаж Наталлі ВАЙНОЎСКАЙ

У пачатку лістапада ва ўсіх сельскіх клубах Ганцавіцкага раёна перасталі паказваць кінафільмы. У мінулым месяцы яшчэ функцыяніравалі 11 кінаўстановак. Аднак з-за адсутнасці фінансавання райвыканкам даў распараджэнне да канца года ўсіх работнікаў кінавідэапрадпрыемства, якія працуюць на сяле, адправіць у адпачынак за свой кошт. Матывуецца такое рашэнне тым, што людзі ўсё роўна не ходзяць на кінасеансы, і ў сувязі з гэтым няма сэнсу трымаць на працы работнікаў.

Яшчэ тры гады таму назад ў раёне дзейнічала 22 кінаўстаноўкі. На сённяшні дзень працуе толькі адзін кінатэатр "Кастрычнік" у горадзе, ды і ў ім адключана ацяпленне. Пракаменціраваць сітуацыю мы папрасілі метадыста кінавідэапрадпрыемства Ірыну Кандратовіч.

*– На жаль, дарослыя зараз амаль не ходзяць нават на прэм'ерныя фільмы. А вось дзіцячыя сеансы карыстаюцца попытам. І на вёсцы працаваць можна. Планы там невялікія. Нармальнай дзейнасці нашай установы перашкаджаюць застарэлыя прынцыпы работы. Немалая частка работнікаў – людзі пенсійнага ўзросту, і ім цяжка рашыцца на нейкія змены. Маладыя спецыялісты не прыжываюцца. Так, у верасні звольнілі маладую дзяўчыну са спецыяльнай адукацыяй. Крызіснае становішча кінавідэапрадпрыемства абумоўлена і недахопам сродкаў. Тых грошай, якія мы зарабляем, хапае альбо заплаціць падаткі, альбо на выплату зарплаты. Дзяржаўная датацыя значна зменшылася. З бюджэту на бягучыя выдаткі на год было выдзелена толькі 14,3 мільёны рублёў, у мінулым годзе гэта лічба складала 26 мільёнаў. Але мы прыкладаем усе намаганні, каб нейк трымацца на плыву. Есць добрая практыка выязных паказаў у дзіцячых садках, групах падоўжанага дня. Вось 12 лістапада з кінавідэапраектарам выязджалі ў вёску Ганцавічы. У школе сабралася 45 чалавек жадаючых.*

Дарэчы, Ірына лічыць, галіну кінавідэабізнесу перспектыўнай і плануе працаваць ў гэтай сферы і далей. Зараз яна вучыцца на пятым курсе інстытута па спецыяльнасці менеджэр.

З кожным годам папулярнасць "шырокага экрана" змяншаецца. Закрыліся кінапункты нават у буйных вёсках раёна. Так, у В. Круговічах кінафільмы не паказваюць ужо больш за год. Пасля звальнення апошняга кінаапаратара заняць вакантную пасаду жадаючых не знайшлося.

Былы работнік установы Іван Савеня, які разам з жонкай "круціў кіно" ў Круговічах, мае свой погляд гэтай праблемы:

*– Ніхто не хоча працаваць кінаапаратарам, бо зарплата там мізэрная. Ды і тую апошнім часам прыходзілася закладваць, каб выканаць дааедзеныя планы. Але галоўная прычына, што людзі перасталі хадзіць на кінасеансы і ў тым, што прывозілі маральна ўстарэўшыя фільмы. Індыйскія двухсерыйныя карціны, даўно перасталі карыстацца попытам, і нават дзеці, прачытаўшы афішу, жартавалі: "А-а, зноў "індыйскі баявік!" Другая прычына: дрэнна працуе сама арганізацыя. Яна настолькі бедная, што не мае нават магчымасці купіць для пракату новыя фільмы. Былі б мастацкія стужкі, якія паказваюць зараз у буйных гарадах, народ хадзіў бы...*

Вядома ж, у вялікіх гарадах, дзе ёсць тэатры, опера, цырк, дзе мноства бараў і кафэ, кінатэатры патрэбны менш. Між тым менавіта ў сталіцах яны функцыянуюць, там ідуць цікавыя фільмы, праводзяцца кінафестывалі, сустракаюцца знакамітасці... Ну а на вёсцы, калі ад культуры і так няшмат чаго засталося, то які сэнс трымацца за кіно?

Пэўна, сыходзіць у нябыт час, пра які Ленін некалі гаварыў: "Из всех искусств для нас важнейшим является кино".

Адзін з работнікаў Ганцавіцкага кінавідэапрадпрыемства ўспамінае часы, калі кіно толькі прыходзіла на вёску, кінаперасоўкі вазілі ад сяла да сяла на падводах, санях, нават веласіпедах. Везлі ўсё – дынамікі, кінаапарат, экран. Калі не было святла, дастаўлялі туды і бензінавы рухавічок, які выпрацоўваў электраэнергію. Паказвалі кіно ў звычайнай вясковай хаце, дзе магло змясціцца больш людзей. На сеансы прыходзілі амаль усе вяскоўцы. Іншы раз па некалькі разоў паказвалі адны і тыя ж фільмы, аднак гледачоў не змяншалася.

Час мяняецца. У кожнага ў хаце тэлевізар, магнітафон, відэа. Але ж вясковы клуб – гэта магчымасць не толькі паглядзець мастацкую стужку на вялікім экране. Найперш чалавечыя зносіны. Раней гэта лічылася паказчыкам культуры. Тым не менш, як бачым, кіно з вёсак сыходзіць. Проста для некага і кіно становіцца "неперспектыўным".

28 лістапада адбудзецца калегія Міністэрства культуры РБ, на якой будзе разгледжана пытанне і аб далейшым лёсе кінавідэапрадпрыемстваў. Цікава, якім будзе рашэнне калегіі?

Пятро ГУЗАЕЎСКІ

Социум

# «От матерщины коровы молока не прибавят»

Уважаемая редакция газеты «Спадарожнік», никогда не писала, а теперь решилась, тем более что уволилась с работы, как говорят, «по собственному желанию». Хотя на самом деле собственного желания как раз и не было. Пригрозил мне наш председатель колхоза «1 Мая» Федор Куратник, что если сама не напишу заявление, то причина для увольнения найдётся. Написала. Боялась, что по статье уволит. Теперь мне и двум дочерям придется жить на их пособие в 96 тысяч рублей.

Но без вины виноватой вышла, Бог тому судья. А причиной стало то, что после выхода статьи «У калгасе добра жыць» в вашей газете, в которой писали о нашем колхозе, обвинил меня председатель, что это я всё корреспондентам рассказала. Хотя я и в глаза ваших корреспондентов тогда не видела. Но коль уж так случилось, хочу высказать, что на душе накипело.


Фото Петра Гузаевского

• Животным необходим должный уход

Последние пять лет работала я в колхозе «1 Мая» дояркой. С этой должности и уволилась. А вышло всё так. В конце октября в колхозе уменьшились надои молока. 18 октября приезжал начальник сельхозпрода Викентий Монтик, чтобы разобраться в чем причина. Рассказали колхозники, что причиной низких надоев стало то, что коров перегоняли с летнего пастбища, и стадо вовсе три дня не доилось. На ферме было отключено электричество, не было воды, потому что не работал насос. Тогда доярки и показали районному начальнику статью в «Спадарожнікe», где было написано, что животноводы жаловались на руководство колхоза, что оно не уделяет должного внимания людям.

Уже на другой день на ферму приехал разгневанный председатель (раньше его редко там видели) и стал этой газетой мне тыкать в лицо, мол, это я прессе нажаловалась, и это мне так с рук не сойдет.

Ждать пришлось недолго. 29 октября я ходила в правление колхоза, чтобы написать заявление на отпуск, а председатель и сказал: *«Отпуска не получишь.Увольняйся, потому что все равно уволю. Я тебе и расчетные, и отпускные сразу отдам»*. Пришлось уволиться, потому что еще с лета заявление мое об увольнении лежало. Тогда я надеялась получить другую работу, но не вышло. Вот и пришлось «по собственному» написать.

С неугодными председатель расправляется уже не впервые. В этом году доярку Светлану Цуприк «попросил» с работы. Она пожаловалась в район, что навоз несколько дней не откатывали, скот в г... «плавал». Причина для увольнения, конечно же, другая нашлась.

Все просчеты и недоимки у нас из людской зарплаты высчитывает, чтобы в страхе людей держать. Наказание это самое распространенное. Когда заморозки внезапно наступили, с летнего лагеря люди гнали скот, одно животное сдохло по дороге, платить пришлось пастухам. Весь падёж молодняка на фермах постоянно списывают на телятниц и доярок. С них за сдохших телят удерживают по 21 тысяче рублей. А оформляют документы как будто купили их на мясо. А больное было животное или нет, это никого не волнует. «Козлы отпущения» у руководства колхоза всегда найдутся. Это как в той басне: *«У сильного всегда бессильный виноват...»*.

Поведением руководителя хозяйства Федора Куратника не довольны многие жители Хотыничей. Председатель, разговария с подчиненными, нередко выражается нецензурной бранью, по поводу и без повода... А ведь многие ему по возрасту в отцы и матери годятся. Самое мягкое, к примеру, обращение к дояркам – «мурзы»... ***(Далее идут словосочетания не применяемые в литературном языке. – прим. ред).***

Раньше председателем Кадевич был. Так с ним всегда поговорить можно было. Он выслушает, посоветует что-то. Поможет или нет, это другое дело, но уважение к людям было.

Поэтому хочу сказать через вашу газету Федору Куратнику (знаю, что прочитает): *«Председатель ты наш дорогой, от матерщины коровы молока не прибавят!»*

Тамара Владимировна ВОЛУЕВИЧ, бывшая доярка колхоза «1 Мая»


Фото автора

•Дальше – только пешком

# Жителей деревни Пасеки отрезали от мира

Уже больше месяца невозможно проехать в деревню Пасеки. После ремонта железнодорожного переезда ремонтники посреди дороги бросили бетонные плиты, которые лежат и по сей день. Добраться в населенный пункт можно лишь в объезд по бездорожью.

В Пасеках нет магазина, телефонов. В экстренных случаях, если нужно куда-то позвонить, бегут люди в деревню Ельно. Теперь сельчане и вовсе отрезаны от мира.

– *Совсем про нас забыли, будто мы и вовсе не живём здесь*, – говорит один из жителей Пасек, – *теперь даже скорая помощь не сможет приехать. И дети не могут навестить своих престарелых родителей. Наверное, до весны уже ремонтировать не будут.*

Чтобы выяснить причину такого факта, мы обратились к руководству Ганцевичского лесхоза, в чьем ведении находится данный участок «железки». Как нам сообщили, необходимость ремонта назрела уже давно. Старые непропитанные шпалы, которые были уложены из материала лесхоза, прогнили. Это создавало опасность для поездов, которые возят лесоматериалы. Чтобы закончить ремонтные работы на этом участке дороге, необходимо закупить бетонные шпалы. Договоренность на их поставку уже достигнута.

Петр ГУЗАЕВСКИЙ

Непаразуменне

# Заплаці падаткі і спі спакойна

У наш час напрыдумвана столькі падаткаў, что прасачыць за рознымі зъмяненнямі ў падаткаабкладанні чалавеку без спецыяльнай адукацыі вельмі складана. І тым больш заблытваецца грамадзянін, калі ўчора табе налічылі адно, сёння – другое, заўтра – іншае. Менавіта з такой сітуацыяй я і сутыкнуўся, калі атрымаў рахунак на аплату за нерухомасць.

У вёсцы Дзяніскавічы ад бацькоў мне ў спадчыну застаўся дом з прыбудовамі, і я, канешне, як і ў мінулыя гады, плаціў падаткі. У гэтым годзе яшчэ ў жніўні мне патэлефанавалі, што ў Дзяніскавіцкі сельсавет я павінен заплаціць падаткі за нерухомасць у памеры 22 тысяч рублёў. На маё пытанне, чаму столькі і як гэты падатак налічваецца, бухгалтар сельвыканкама адказала, што дадзеныя прысылае падатковая інспекцыя. Плаціць я не стаў. У верасні мне зноў пазванілі і сказалі, што плаціць трэба прыкладна 16 тысяч рублёў. Аднак і на гэты раз я вырашыў пачакаць з аплатай.

Напрыканцы кастрычніка я звярнуўся да падаткавікоў з пытаннем: "Колькі ж мне неабходна заплаціць падаткаў за пабудовы?" Там палічылі і назвалі суму 7800 рублёў(!?)

Дзіўная рэч атрымліваецца. За два месяцы мне назвалі тры розныя лічбы. Мяне ўзрадавала, што апошнія былі ў бок змяншэння. У мінулым годзе 14997 рублёў заплаціў, а ў гэтым амаль у два разы меней.

Вось толькі не магу я зразумець, як гэты падатак налічваўся? Не маглі ж змены ў падаткаабкладанні за тры месяцы змяніцца аж тры разы.

Іван КАРПЕНЯ, жыхар г. Ганцавічы

P.S. У Ганцавіцкай падаткoвай інспекцыі нам паведамілі: "Гадавая стаўка падатку на нерухомасць з кошту жылых будынкаў, надворных пабудоў, якія належаць фізічным асобам, устанаўліваецца ў памеры 0,1%. Падатак на нерухомасць неабходна заплаціць не пазней 15 лістапада. У дадзеным выпадку розная сумы пры налічэнне падатку на нерухомасць узніклі ў сувязі з пераацэнкай кошту нерухомасці: зменшыўся ацэначны кошт будынка і суадносна зменшыўся падатак".

Официально

# Уволена «за нарушения...»

Как стало известно нашей редакции, приказом прокурора Брестской области Валерия Омельянюка 31 октября этого года от занимаемой должности отстранена помощник прокурора Ганцевичского района, юрист 2 класса.

Остаётся добавить, что с должности она уволена с формулировкой: «за систематическое нарушение служебной дисциплины».

Отдел информации «С»



## Горожане отвечают

**Как вы полагаете, что будет, если на самом деле Россия откажется поставлять нам энергоресурсы или ограничит их поставку на льготных условиях?**



**Александр Иванович, работник РАЙПО:**

– Раньше, при Союзе, таких проблем не было. Жили дружно. Конечно, если так случится, будет труднее: своих ресурсов у нас мало.



**Сергей Васильевич Бобко, работник железной дороги:**

– Мы об этом как-то но задумываемся. Ясно одно: Запад нам ничего не даст, и нас там не ждут. Поэтому свою политику надо ориентировать на Россию.



**Ирина Дейко, бухгалтер-кассир КПД:**

– Станет только хуже, и так положение не из лучших. Если так случится, то зимой замёрзнем.



**Наталья Александровна, работник бухгалтерии РАЙПО:**

– Мы платим России деньги за топливо, так что, думаю, таких проблем не будет. Да и А. Лукашенко заверил нас, что в квартирах будет тепло и уютно.



**Наталья Поух, продавец:**

– Нам лучше от этого не станет, в квартире многие газом греются, так как батареи в некоторых квартирах чуть-чуть тёплые. В таких условиях жить трудно.



**Леонид Писарик, предприниматель:**

– Сначала будет трудно. Потом, думаю, привыкнем, научимся экономить. Литва и Латвия живут, как на острове, но хуже, чем мы, люди там жить не стали.



**Ирина Пичиц, учащаяся школы:**

– Однозначно ответить сложно. Возможно, тогда у нас будут перебои в энергоснабжении, в поставках газа. Боюсь, что придётся готовить на кострах.

Опрос провела Екатерина АНИСИМОВА

Фото Алексея БЕЛОГО

Залатыя рукі

# Вясёлка ззяе ў хаце

Любоў да вышыўкі, ручнога ткацтва Ульяне Пятроўне Віннік (дзявоцкае прозвішча Гацук) перадалося ад маці – Ганны Сямёнаўны. І вышываць, і ткаць яна пачала з сямі гадоў. З таго часу мінула вось ужо амаль 50 гадоў, і займаецца Пятроўна ў вольны ад работы час любімай справай. У сям'і Гацукоў з Хатыніч, акрамя маці Ульяны, ткацтвам і вышыўкай займаліся і тры яе старэйшыя сястры – Зося, Валя і Марыя. Уся іх вялікая хата была скрозь увешана вышыванкамі і тканымі вырабамі майстрых. Авалодаць сакрэтамі народнага рамёства Ульяна вучылася не толькі ў маці, але і ў сясцёр, бо была ў сям'і малодшай з іх. У раннім дзяцінстве, гледзячы на іх, нярэдка браўся за іголку з ніткай і іх брат, Васіль, які цяпер працуе леснікам у Хатыніцкім лясніцтве. Праўда, зараз ён саромеецца аб тым успамінаць – мужчына, вядома ж. Як апынулася Ульяна ў Борках? Можна сказаць, выпадкова. Прыехала сюды ў 1964 годзе на вяселле да сяброўкі да прыглянулася хатыніцкая прыгажуня маладому зухавату загадчыку Боркаўскага сельскага клуба Аляксандру Віннiку. Відаць, лёс наканаваў ім сустрэцца, бо праз колькі месяцаў згулялі вяселле. З таго часу і жывуць мірна і ладна. Маюць пяцёра дарослых дзяцей, шасцёра ўнукаў. І яшчэ адна характэрная дэталь: болей сарака гадоў жыцця Ульяна Пятроўна аддала рабоце ва ўстановах культуры – была кінамеханікам у Хатынічах і Борках. Муж яе, Аляксандр Дзям'янавіч, нягледзячы на тое, што ўжо чатыры гады як выйшаў на пенсію, працягвае працаваць вадзіцелем у кінавідэапрадпрыемстве. А да гэтага быў і загадчыкам сельскага клуба, і дырэктарам Лунінецкага РДК, і кінамеханікам...З пераездам у Боркі Ульяна (хаця клопатаў у яе паболышала – сям'я, гаспадарка) любімай справы не пакінула. Па-ранейшаму ў вольныя часіны ткала і вышывала. Ніводнае вяселле ў вёсцы не абыходзілася і не абыходзіцца цяпер, каб Пятроўна (так ласкава называюць яе боркаўцы) не абвязвала сваімі адмыслова зробленымі ручнікамі сватоў ды маладых.

Заходзіш у хату Віннікаў – і нібы трапляеш у казку. Ад яркіх узорыстых накідак, пакрывалаў, абрусаў, сурвэтак, дарожак, навалачак, ручнікоў аж святлей становіцца ў хаце, нібы разбаўляецца вясёлкай шэры свет лістападаўскага дня, што нясмела прабіваецца ў пакой праз вокны. Вышыўкі ўсюды: на падлозе і вокнах, на сценах і дзвярах, на канапах і ложках, на тэлевізары і шафе, на журнальным століку і крэслах. А на дарожкі, што пад нагамі, нават боязна ступаць – каб не запэцкаць.



Фота аўтара

• Святлей у хаце ад адмысловых вырабаў майстрыхі

Майстэрства Ульяны заўважылі не толькі вяскоўцы. Яе работы дэманстраваліся ў Ганцавічах, Брэсце, Мінску, многія з іх набыў Брэсцкі абласны Дом народнай творчасці, сталічны тэатр Беларускага мастацтва. За многія з іх яна ўдастоена каштоўных прызоў і дыпломаў. А ў 2001 годзе яе работы (звыш дваццаці – у асноўным ручнікі тканыя) вазілі на выставу ў паўночны Мурманск.

Прыгажосць і маляўнічасць адмысловых работ Ульяны Пятроўны нельга перадаць ніякімі словамі. І іх, як і карціны вялікіх мастакоў, трэба бачыць, каб палюбавацца непаўторным харастом і па-сапраўднаму ацаніць.

Вышыўка і ткацтва – не адзінае захапленне таленавітай майстрыхі. Вось ужо болей сарака гадоў яны разам з мужам Аляксандрам Дзям'янавічам спяваюць у самадзейным фальклорным калектыве, што створаны і дзейнічае пры Боркаўскім сельскім клубе. І кожны раз на канцэрты апранае Ульяна Пятроўна кашулю, спадніцу і фартух, умела вышытыя сваімі рукамі. А, бывала, уся сям'я Віннікаў – бацькі і пяцёра іх дзяцей – радавалі аднавяскоўцаў шчырай народнай песняй.



Фота аўтара

• Пра майстэрства Ульяны Пятроўны Віннік ведаюць не толькі ганцавічане

Кастусь МОХАР

## Наша почта

### На словах, как на гуслях

Несколько лет назад моему сыну Александру Апановичу «посчастливилось» получить квартиру в доме № 23 по улице Строителей. Получилось так, что расположена она на последнем пятом этаже. Именно из-за её расположения сын постоянно терпит всевозможные неудобства. И первое из них – протекающая крыша.

В его квартире, как, впрочем, и во всех остальных, на пятом этаже этого дома постоянная сырость. Углы затекают, обои обваливаются, от переувлажнения перекашиваются двери. Постоянно приходится делать ремонты и тратить на них немалые деньги. Только одни двери сыну приходилось менять дважды. А сколько раз переклеивали обои? Не сосчитать.

По вопросу ремонта крыши дома сын неоднократно обращался в КУМПП ЖКХ, но безрезультатно. Решила вмешаться в это дело я как мать. Обратилась лично к директору Виктору Берко. В ответ услышала чуть ли не ругань и то, что он, Берко, меня знать не знает и знать не желает. На этом разговор и закончился.

С письменным заявлением мой сын, бывший воин-афганец, дважды раненный в боях, награжденный за мужество орденом Красной Звезды, почти месяц назад обратился в райисполком. Но и оттуда, как говорят, ни слуху ни духу.

А как же, скажите, тогда понимать слова председателя Ганцевичского райисполкома, высказываные им через газету «Савецкае Палессе» 13 марта этого года в интервью «Усё, што мы робім, для людзей: В нем он недвусмысленно утверждает: *"...Кожны канкрэтны выпадак, кожную заяву мы ўважліва разбіраем"*. Более того, в том же интервью он чётко пообещал: *"Па гораду будзем працягваць рамонт дахаў, бо для многіх ганцавічан іх працяканне – сапраўднае бедства."*

На словах, как на гуслях, все напевно, жизнеутверждающе и оптимистично. Но если обещание дано – его над выполнять.

Ольга АПАНОВИЧ, мать воина-афганца

**От редакции:** Подобные жалобы в редакцию нашей газеты поступают почти ежедневно. Вот и накануне выхода газеты к нам обратились возмущенные жители дома №8 по улице Чайковского, квартиросъемщица Татьяна Васильевна Лынша из дома № 10 по улице Заводской. У них подобное положение: протекает крыша, в квартире сыро и неуютно. Их многочисленные обращения в КУМПП ЖКХ и райисполком с просьбой помочь решить назревшую проблему, также осталось без внимания.

Па слядах нашых публікацый

# Хто ж мы будзем?

Беларускі пісьменнік М. Гарэцкі пісаў так: *"Божа, навошта даў ты мне гэтую беларускую мову? За яе мяне праследавалі палякі, немцы, садзілі ў турму бальшавікі. Усё маё жыццё – суцэльная пакута, і праз што – мову, якую ты даў мне быццам на радасць, каб я размаўляў на ёй і славіў цябе."*

І сёння, калі Рэспубліка Беларусь стала незалежнай, суверэннай дзяржавай, у якой беларуская мова прызначана адной з дзяржаўных моў, у газеце "Спадарожнік"з'явілася артыкул Сяргея Чыркуна "Какой язык родной?" з развазаннем ці патрэбна беларусам беларуская мова. Вельмі добра, што ў "Спадарожніку" кожны можа выказаць сваю думку. Але ж якую?

Немагчыма ўявіць сабе, каб паляк, немец, літовец публічна выказваўся аб тым, ці патрэбна ім свая мова. А нам?.. А ці патрэбна маці? Кожнае слова ўзнікла невыпадкова. Мова – гэта наша памяць, наша культура і гісторыя.

Аўтар артыкула "Какой язык радной?" піша так аб становішчы беларускай мовы ў краіне: *"Я не думаю, что стоит крайне драматизировать ситуацию. Главное в споре о языках – сохранить лучшие человеческие качества. Мы должны знать нашу культуру, историю, искусство, помнить народные обряды и петь свои песни."*

Але гэта ж абсурд – пець свае родныя песні, не разумеючы з іх ні слова, удзельнічаць у абрадах, не ведаючы яго сэнсу.

У аўтара ёсць на мой погляд і слушная думка "Сохранить родной язык можно лишь тогда, когда наши дети начнут общаться на нём". Шчыра прызнаюся, што я сам на нізкім узроўні валодаю сваёй мовай. А дзе ж было, калі ў вясковай школе над уваходам вісеў надпіс "Добро пожаловать!" замест "Сардэчна запрашаем!", а ў вышэйшай навучальнай установе чалавека, размаўляючага на беларускай мове, з агідай называлі "колхозник". Вельмі б хацелася каб нашы дзеці размаўлялі на роднай мове.

Аўтар сцвярджае: *"А как изменились мультики и художественные фильмы после перевода (маецца на ўвазе на беларускую мову), дети не хотят их смотреть..."*

Выходзіць, паважаны С. Чыркун, вы самі сабе супярэчыце. У адным выпадку вы за тое, каб дзеці валодалі мовай, а ў другім вы супраць таго, каб для дзяцей на тэлебачанні гучала гэтая мова, так як пасля перакладу губляецца дух казкі.

Вельмі шкада, што ў дзяцінстве вам не чыталі на мілагучнай беларускай мове нашы цудоўныя беларускія казкі, шкада, што вы не глядзелі не меней цудоўную тэлеперадачу "Калыханка".

З беларускай мовы на мовы амаль усіх цывілізаваных краін перакладзены творы Быкава, Караткевіча, Шамякіна і шэрагу іншых беларускіх пісьменнікаў.

На жаль, гэтага недастаткова, і Беларусь мала ведаюць у свеце. Не памятаю, у якім творы давялося прачытаць пра тое, як у савецкія часы адна з беларускіх дэлегацый наведала афрыканскую манархічную дзяржаву. Іх прадставілі цару. Калі яму перакладчык сказаў, што дэлегацыя з Беларусі, цар задаволена сказаў: "О вы белые русские. Белые. Молодцы. Вы за царя воевали". Кіраўнік дэлегацыі ледзь не страціў прытомнасць. А што будзе з нашай дзяржавай, хто яе будзе паважаць, калі мы дабравольна адцураемся роднай мовы?

Нават У. І. Ленін, як бы яго ні ставіліся сучаснікі, разумеў, што родная мова неабходна кожнаму народу. І ў адным з пунктаў нацыянальнага рупнапраўя ён адзначыў: *"Обеспечение равных условий развития всех наций, равного права пользоваться родным языком, иметь национальные школы..."*

Ну не хочам мы, дарослыя, размаўляць на роднай мове, але ж не будзем перашкаджаць дзецям, не будзем падымаць пытанне аб адмене беларускіх дзіцячых тэлеперадач. Няхай яны будуць разумнейшымі за нас.

Асабліва крыўдна, што артыкул "Какой язык родной?" з'явіўся ў год, калі адзначаецца на дзяржаўным узроўні юбілей славутых песняроў Якуба Коласа і Янкі Купалы. І, думаецца, няўжо спраўдзіліся словы паэта Пімена Панчанкі:

*– Родны Янка Купала,*
*Вы пісалі, "Я веру настане..."*
*Дарагі мой Іван Дамінікавіч,*
*Не, не настане!*
*Гэта ўжо наша настала*
*змяркание,*
*Гэта з мовай маёй,*
*Гэта з песняй маёй*
*Развітанне".*

Так яно і будзе, калі прыслухоўвацца да думак аўтара артыкула. Знікнуць беларусы, застанецца "русскоговорящее население", дакладней, «Іваны родства не помнящие».

Сяргей КРУГАЛЕВІЧ

Мая маленькая радзіма

# Вёска мая, Круговічы

**На багатую гісторыю маёй малой радзімы, Вялікіх і Малых Круговічаў, указвае наяўнасць у яе ваколіцах надзвычай вялікай колькасці курганоў, многія з якіх застаюцца і па сённяшні дзень незарэгістраванымі археолагамі, а многія ў ходзе асваення чалавекам прыродных рэсурсаў ужо сцерты з твару зямлі. Сярод мясцовага насельніцтва з-за смугі часу склалася ўяўленне пра гэтыя пахаванні як пра магілы загінуўшых тут шведаў стагоддзі са тры таму, адсюль і адпаведныя назвы – Шведскія магілы ці Капцы. Насамрэч, узрост курганных могільнікаў нашмат большы. Паводле дадзеных археалагічных даследаванняў, самыя старажытныя з іх датуюцца канцом X ст. Такі пахавальны абрад на гэтых землях існаваў недзе на працягу трох стагоддзяў і належаў ён не каму іншаму, як нашым далёкім продкам: у VIII – X ст. усю тэрыторыю Прыпяцкага Палесся насяляла ўсходнеславянскае аб'яднанне плямён – дрыгавічы.**



Фота з архіва «С»

• Самы стары дуб у Ганцавіцкім раёне расце ў Круговічах

Афіцыйная ж гісторыя вёсак пачынаецца з XVI ст.

У 1569 г. (дарэчы, цалкам верагодна, супадзенне з годам заключэння Люблінскай уніі не выпадковае, а самае непасрэднае) пасяліўся ў гэтай мясцовасці польскі пан з 28 прыгоннымі, якіх прывёз з сабою. Іх рукамі хутка быў пабудаваны панскі маёнтак. Неўзабаве вакол яго на круглай паляне ўтварылася невялікая вёсачка, якую засялілі прыгонныя. Легенда сцвярджае, што менавіта ад гэтай паляны, а дакладней ад слова "круг" і ўтварылася назва вёскі – Круговічы, якая неўзабаве набыла сённяшні выгляд. Круговічы хутка раслі і ўжо ў канцы XVII ст. былі адным з самых буйных паселішчаў у нашай мясцовасці.

Не на шмат пазней, напрыканцы XVI ст., магчыма, шляхам "адпачкавання", па суседству ўзнікла яшчэ адно пасяленне, пазначанае на картах па гісторыі тагачасся як Ляхавічы. Некаторыя слушна заўважаюць, што назву сваю гэтая вёска атрымала ад слова "лях", бо была заселена ў асноўным палякамі, якіх у народзе звалі "ляхамі". Затым нейкім чынам яна змяніла назву на Малое Сяло (побач жа месцілася сяло значна большае). Як можна лагічна меркаваць, у станаўленні сённяшніх назваў вёскі мелі ўзаемаўплыў спярша Малое Сяло (пасля страты ад пачатковай назвы – Ляхавічы) "дапамагло" Круговічам стаць Вялікімі, а потым ужо пад іх уздзеяннем само стала Круговічамі, але, адпаведна, Малымі.

Вёскамі за шматвекавую гісторыю іх існавання валодаў не адзін панскі род, часам вакольная зямля разам з яе насельнікамі здавалася ў арэнду.

У далейшым да гаспадарання ў гэтых краях мелі дачыненне Абуховічы, Чапскія і адзін з самых магутных еўрапейскіх родаў – Радзівілы. Найбольшае ж па часе валоданне вёскамі было ў Абуховічаў (як мінімум паўтара стагоддзя), памяць па якіх і сёння захоўваецца сярод людзей.

Гістарычна склалася, што Круговічы ў сваім рэгіёне былі, можна сказаць, цэнтральнай вёскай. Пасля адмены прыгоннага права і стварэння ў губернях Паўночна-Заходняга краю валасцей, цэнтр адной з двух на тэрыторыі Ганцаўшчыны ўсталяваўся менавіта тут. У 1869 г. у Круговічах была адкрыта аднакласная царкоўнапрыходская школа ці, як яшчэ называюць, земскае народнае вучылішча (першае ў наваколлі). У сярэдзіне XIX ст. да Круговіцкага царкоўнага прыходу далучылі суседні малакольскі Агарэвічы і неўзабаве пабудавалі новую Георгіеўскую царкву, якая захавалася да сённяшніх дзён (наяўнасць царквы ў вясковым населеным пункце павышала яго статус да сяла). Акрамя праваслаўных, у Круговічах жылі католікі, якія мелі сваю капліцу. На жаль, з атэістычных часоў панавання бальшавізму яна стаіць занядбанай.

Гістарычныя катаклізмы з нашай краінай, відаць, не праходзілі паўз гэтыя землі. У 1816 г. Круговічы і Малое Сяло мелі адпаведна па 20 і 12 двароў. Дэмаграфічны і гаспадарчы значны рост адбыўся толькі недзе на пераломе стагоддзяў. На пачатку XX ст. у вёсках было ўжо 92 двары з 520 жыхарамі ў Круговічах і 66 двароў з 424 жыхарамі ў Малым Сяле.

**Культурнае жыццё тагачасных беларускіх вёсак.** Так, Круговічы да самых сацыяльных катаклізмаў 1910-х гг. мелі свой лялечны тэатр.

Захавалася імя апошняга кіраўніка батлейкі – Занька Адам Ігнатавіч, якому падчас прадстаўленняў дапамагаў асістэнт. У склад калектыву тэатра ўваходзіў і свой музыка.

У далейшым тэндэнцыя дэмаграфічнага росту запаволілася: пракаціліся першая сусветная і грамадзянская войны. Бальшавіцкая ўлада пасля перавароту ў Петраградзе панавала надоўга. 4 лістапада 1917 г. на сходзе ў Ганцавічах яна была абвешчана, пасля чаго ў Круговічах арганізаваўся Рэўком (старшыня Цімашкевіч з суседняга Вострава). А напачатку 1918 г. вёскі апынуліся пад нямецкай акупацыяй. У 1921 г. у II Рэчы Паспалітай бальшавікі купілі мір, у кошт якога трапіла і паў-Беларусі. Недзе тады ж, паводле польскага перапісу, вёскі мелі 116 двароў (667 жыхароў) – Круговічы, 86 двароў (543 жыхары) – Малое Сяло.

Ужо ў 1939 г. пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Беларусі пачаліся працэсы калектывізацыі, як паказаў досвед, найбольш страшнай з'явы для сялян. У Круговічах стварылі калгас імя Леніна, які ўзначаліў тутэйшы жыхар Андрэй Заяц. З мэтамі дапамогі калектыўным гаспадаркам раёна ў гэтай жа вёсцы была арганізавана машынна-трактарная станцыя, дырэктарам якой стаў нехта Бубліс, відаць, прыезджы. У кожнай вёсцы Саветы адкрылі магазіны, якія запоўнілі таннымі таварамі, у прыватнасці газай, паркалем, махоркай, гарэлкай (астатнія два прадукты за палякамі былі пад дзяржаўнай манаполіяй). У той час абедзве вёскі запалалі рознымі агітатары, што расказвалі пра перавагі сацыялістычнага ладу, пра дзівосы савецкіх дасягненняў.

Напад гітлераўскай Германіі перапыніў савецкую рэарганізацыю вёсак. Часы нямецкай акупацыі сталіся вельмі трагічнымі як для Беларусі ў цэлым, так і не вёсачак. Удзень не давалі спакою немцы – аматары беларускіх прысмакаў, асабліва яек і курацінкі. А ноччу нярэдка турбавалі партызаны: ім жа таксама трэба было нешта есці.

7 ліпеня 1944 г. нямецкі гарнізон у Круговічах быў з адносна лёгкасцю разбіты наступаўшымі часцямі Чырвонай Арміі. У вёсках ізноў усталявалася савецкая ўлада. Яна ўзяла курс на аднаўленне дзеючых да вайны і стварэнне новых калгасаў.

Масавая арганізацыя калгасаў на Ганцаўшчыне прыпадае на перыяд 1949 – 1950 гг. Спачатку (вясной 1949 г.) быў створаны калгас у Малым Сяле – імя Леніна (першы старшыня Мікалай Міхайлавіч Бернат). Нягледзечы на тое, што Круговічы на той час з'яўляліся цэнтрам сельскага савета і мелі калектыўную гаспадарку яшчэ да вайны, кругаўцы не надта імкнуліся пад гнёт калгасна-прыгоннай сістэмы, смак якой, відаць, за гады ваенных нягод не забыўся.

Такое становішча вымусіла адказныя органы ўдзяліць болей увагі з прымяненнем сілавых метадаў. Гэта прынесла плён напрыканцы верасня, калі на карце раёна з'явіўся калгас імя Талбухіна (старшыня Адам Максімавіч Гайцкевіч). Па тэмпах калектывізацыі Круговіцкі сельсавет працягваў плесціся ў канцы, на кастрычнік 1949 г. маючы толькі 19 % уступіўшых у калгас гаспадарак з іх агульнай колькасці ў 500 двароў (паасобку ў Круговічах і Малым Сяле на 1 лістапада 1948 г. налічвалася адпаведна 230 і 184 двары).

Круговіцкая МТС на пачатку 1949 г. мела ўсяго 7 трактароў на некалькі гаспадарак, таму ў асноўным праца вялася ўручную і з дапамогай цяглавай сілы. А ў 1958 г. МТС была ўвогуле расфарміравана з выкупам тэхнікі калгасамі. Круговіцкая гаспадарка набыла 5 трактароў і камбайн (брыгадзірам трактарнай брыгады быў Занька Мікалай Максімавіч).

Пасля вайны адбыўся імклівы рост насельніцтва вёсак. Цэнтр сельсавета, праўда, 16.07.1954 быў перанесены ў Агарэвічы, якія знаходзіліся бліжэй да райцэнтра. Упершыню за сваю гісторыю Круговічы страцілі цэнтральнае значэнне сярод вакольных вёсак. Ужо ў 1944 г. наладзіла функцыянаванне школа-сямігодка, першы выпуск з якой адбыўся ў 1947 г. З 1951 г. школа пераўтварэцца ў дзесяцігодку – сярэднюю школу, якая дала першы выпуск у 1954 г. Яе наведвалі, каб атрымаць сярэднюю адукацыю, дзеці са шматлікіх суседніх вёсак (нават з Дзяніскавіч, якія па колькасці насельніцтва пераўзыходзілі Круговічы, але пакуль не мелі сваёй дзесяцігодкі). У Малым Сяле тым часам (з 1958 г.) функцыянавала няпоўная сярэдняя школа. Пасляваенныя пакаленне было такое шматлікае, што Круговіцкая СШ мела па два паралельныя класы.

У 1960 г. было сфарміравана Круговіцкае лясніцтва, плошча яго склала 8460 га. 1961 – 1962 гг. прайшлі пад знакам электрыфікацыі вёсак. Прадуктыўна працавала цагельня, пасля ўдасканалення тэхналогій выпускаючы за сезон да 3-4 мільёнаў штук цэглы. Да канца 1970-х гг. у наваколлі вёсак ажыццявілі меліярацыю, пасля чаго і без таго невялічкая рэчка Смердзь, якая брала выток каля царквы, ператварылася ў бязводную канаву.

Аднак перыяд адноснага росквіту змяніўся заняпадам. У канцы XX ст., у сувязі з міграцыяй жыхароў у горад, у абедзвюх вёсках пачала памяншацца колькасць насельніцтва (на 1.09.1997 было 378 двароў са 1104 жыхарамі). Калгас стаў банкротам і быў далучаны да больш моцнага. Цагельня з-за нерэнтабельнасці і безгаспадарчасці спынілася.

Забываюцца шматвекавыя традыцыі. Сення яшчэ захоўваецца глеба для даследаванняў дыялектолагаў: у нашых вёсках, дыялект якіх адносіцца да гродзенска-баранавіцкай групы гаворак і вельмі блізкі да літаратурнай мовы, нярэдка сустракаюцца моўныя з'явы суседніх дыялектаў – слуцкіх і заходне-палескіх, што стварае асаблівы каларыт, цудоўнейшым чынам адлюстраваны ў творчасці вядомага беларускага пісьменніка Віктара Гардзея, які нарадзіўся ў Малым Сяле і ў шматлікіх мастацкіх творах апеў сваю малую радзіму. Духоўны пласт, сабраны не адным пакаленнем, сёння не мае пераемнасці.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

*(выканана пры кансультацыях Занькі Аляксандра Арсенцьевіча і Мухі Уладзіміра Іванавіча)*

